


# Роля НДА ў разьвіцьці грамадзянскай супольнасьці

## Практычны дапаможнік для пачаткоўцаў



Менск, 2016

Гэты дапаможнік будзе цікавы тым актыўным грамадзянам, якія перарасьлі ролю простага валянтэра і хацелі б самастойна паспрабаваць свае сілы на ніве грамадзкай дзейнасьці. Дапаможнік найперш разьлічаны на тых людзей, якія хацелі б легалізаваць сваю ініцыятыву праз рэгістрацыю грамадзкага аб’яднаньня ці іншую законную форму. Альбо на тых, хто ўжо мае арганізацыю, але думае, як зрабіць яе больш пасьпяховай. Дапаможнік зьмяшчае базавую інфармацыю, якую можна ўмоўна падзяліць на некалькі блёкаў: што такое грамадзкае аб’яднаньне, асноўныя падыходы да стварэньня НДА, што робіць НДА пасьпяховай, а таксама — асобныя ўнутраныя і вонкавыя індыкатары пасьпяховасьці НДА. Дапаможнік спыняецца на пытаньнях ролі НДА ў разьвіцьці мясцовай супольнасьці, гісторыі станаўленьня і асноўных тэндэнцыях сучаснага сэктару грамадзкіх арганізацыяў у Беларусі, відах НДА, прыкладах пасьпяховых арганізацыяў (культурных, экалягічных, адукацыйных, урбаністычных, рэгіянальных ды інш.), а таксама разглядае кааліцыі ды супрацу НДА. Дапаможнік дае адказы на пытаньні: дзе знайсьці дапамогу ў рэгістрацыі ды дзейнасьці НДА; якія існуюць праўныя спосабы атрыманьня фінансаваньня ці прыцягненьня рэсурсаў на дзейнасьць у Беларусі; якія існуюць праўныя формы, каб унікнуць крымінальнай адказнасьці за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай ініцыятывы?

**Аўтар: Ігар Кузьмініч, юрыст, экспэрт і кансультант у арганізацыйным разьвіцьці, грамадзкі дзяяч, выкладнік Варшаўскага ўнівэрсытэту.**

# Зьмест

# 1. Грамадзкі сэктар у Беларусі

У шырокім сэнсе грамадзкая дзейнасьць — гэта актыўнасьць грамадзянаў дзеля падвышэньня якасьці жыцьця супольнасьці. Такая актыўнасьць грамадзянаў выяўляецца ў вызначэньні праблемаў грамадзтва, актуалізацыі вызначаных праблемаў для супольнасьці, а таксама ў прапановах шляхоў і рэальных крокаў для вырашэньня праблемаў сфэры культуры, экалёгіі, адукацыі, заканадаўства, мясцовай інфраструктуры ды інш.

Аснова грамадзкай дзейнасьці — актыўны грамадзянін, матываваны аддаваць свой уласны час, энэргію, веды, сувязі для вырашэньня значных грамадзкіх праблемаў. Вырашэньне актыўным грамадзянінам грамадзкіх праблемаў прыводзіць да ўзьнікненьня новых разумных працэдураў, заканадаўча адлюстраваных нормаў паводзінаў, шляхоў, інстытутаў, культурных акцыяў. Гэтыя ды іншыя вынікі дзейнасьці істотна ўплываюць на якасьць жыцьця кожнага ў супольнасьці з сацыяльна актыўнымі грамадзянамі.

Асаблівасьцю актыўнага грамадзяніна зьяўляецца ягоная незалежнасьць і самастойнасьць у прыняцьці рашэньняў. Бо толькі асоба, матываваная на дзейнасьць для супольнасьці (а не для задавальненьня дзяржаўных ці сваіх прыватных інтарэсаў), здольная вызначаць недасканаласьці і недахопы ў грамадзтве і дзяржаве. Актыўны грамадзянін знаходзіцца па-за межамі інстытутаў дзяржавы, па-за межамі непасрэднага ўплыву загадаў ды ідэалягічных установак ад дзяржаўнай улады, кіруецца ўласнымі каштоўнасьцямі.

Актыўны грамадзянін і патэрналісцкая дзяржава (іншымі словамі, дзяржава, якая «апякае» грамадзтва, імкнецца самастойна і пераважна сваімі сіламі ці толькі пад сваім кантролем уплываць на грамадзтва) зьяўляюцца супрацьлеглымі сіламі. Патэрналісцкая дзяржава ніколі не дапусьціць дзейнасьці актыўнага грамадзяніна, бо ён непадкантрольны — актыўны ж грамадзянін адразу перастае быць такім, як толькі трапляе пад непасрэдны кантроль дзяржаўных інстытутаў і пачынае выяўляць сваю актыўнасьць выключна праз інстытуты, якія знаходзяцца пад поўным кантролем дзяржавы.

Разам з тым, само зараджэньне сучаснага грамадзкага сэктару адбылося ў савецкі пэрыяд. Пэрыяд, калі надзвычай моцнымі былі пазыцыі патэрналісцкай БССР, а любое праяўленьне актыўнасьці па-за межамі падкантрольных дзяржаве арганізацыяў разглядалася як варожае, падлеглае неадкладнаму спыненьню. Сёньня цяжка ў гэта паверыць, але яшчэ ў канцы 80-х гадоў ніводнае публічнае мерапрыемства не магло быць праведзенае безь непасрэднага дазволу ад дзяржавы. Нават насьценныя газэты, прысьвечаныя жыцьцю клясы ў пачатковай школе, папярэдне ўзгадняліся.

Ці існавалі, хаця б у канцы ХХ стагодзьдзя, грамадзкія арганізацыі ў Савецкай Беларусі? Акрамя камсамолу, піянэрыі, якія мелі рысы палітычных моладзевых арганізацыяў з вызначанай палітычнай ідэалёгіяй, існавалі такія аб’яднаньні, як Саюз беларускіх пісьменьнікаў, Беларускае таварыства «Веды», Беларускае таварыства філятэлістаў, Беларускі фонд міру, Беларускі Чырвоны Крыж ды інш. Гэтыя ды іншыя аб’яднаньні сапраўды існавалі, і сапраўды не кіраваліся непасрэдна дзяржавай і камуністычнай партыяй. Аднак спынімся толькі на дзьвюх асноўных прыкметах, якія не дазваляюць аднесьці гэтыя і падобныя структуры да грамадзкіх аб’яднаньняў: гэтыя арганізацыі ня мелі самастойнасьці ні фінансавай, ні ў вызначэньні сваёй дзейнасьці. Гэта значыць, мэтавую дзейнасьць названых арганізацыяў дзяржава

фінансавала са свайго бюджэту, а любая дзейнасьць гэтых арганізацыяў мусіла цалкам адпавядаць ня толькі закону, але і «лініі партыі», ці ідэалягічным устаноўкам на бягучы момант.

Менавіта ў такіх жорсткіх умовах адбывалася станаўленьне грамадзкай дзейнасьці ў канцы 70-х — канцы 80-х гадоў, калі ўзьніклі першыя нефармальныя і напаўлегальныя групы інтэлігенцыі, напрыклад, «Беларуская майстроўня» ў Менску.

Ключавой падзеяй, якая дазволіла грамадзкім суполкам выйсьці з-пад непасрэднай забароны і «падпольля» сярэдзіны 80-х гадоў, стала Перабудова.

Менавіта ў той час нефармальныя групкі людзей, якія раней не маглі вольна дзейнічаць, пачалі гэта рабіць адкрыта. Любыя суполкі, якія паўставалі па-за межамі піянэрыі і камсамолу, у той час называлі нефармаламі. У гэтую групу сьвядома ці несьвядома ўключалі любыя суполкі, якія фармальна не падпарадкоўваліся і не фінансаваліся дзяржавай, партыйнымі ці камсамольскімі арганізацыямі. Напрыклад, нефармаламі называліся моладзевыя суполкі, якія цікавіліся рок-музыкай («рокеры» ці «мэталісты»), але нефармаламі ж называлі і моладзевыя суполкі культурна-асьветнай скіраванасьці, якія ўздымалі пытаньні беларускай мовы, культуры, абаранялі ад руйнаваньня старыя гістарычныя будынкі і г. д. Усе гэтыя суполкі не былі зарэгістраваныя і былі больш падобныя да клюбаў паводле інтарэсаў. Далей мы будзем разглядаць толькі тую частку нефармальных суполак, што мелі прыкметы грамадзкіх аб’яднаньняў і ставілі мэты, зьвязаныя з паляпшэньнем асяродзьдзя празь зьмены ў беларускім грамадзтве.

Першымі аб’яднаньнямі актыўных грамадзянаў сталі такія суполкі, як менская і гомельская «Талака», гарадзенская «Паходня» і некаторыя іншыя рэгіянальныя (як правіла, моладзевыя) суполкі. Гэта былі

грамадзкія нефармальныя аб'яднаньні культурна-асьветнага характару, якія займаліся пераважна арганізацыяй лекцыяў і сустрэчаў (з гісторыкамі, цікавымі і вядомымі людзьмі), рэканструкцыяй беларускіх абрадаў. Але ня толькі гэтым. Яны займаліся экалягічнымі акцыямі: ладзілі прыборку рэчышчаў, водныя сплавы — каб прыцягнуць увагу да праблемаў экалёгіі. Яны абаранялі ад зьнішчэньня старыя гістарычныя будынкі, дапамагалі ў правядзеньні раскопак, ладзілі акцыі, скіраваныя на дэмілітарызацыю грамадзтва (напрыклад, акцыя ў Гарадзенскай вобласьці супраць ракетных базаў). Іншымі словамі, гэтыя суполкі можна назваць правобразамі сучасных грамадзкіх аб'яднаньняў зь некалькіх прычынаў:

- Суполкі ствараліся добраахвотна, на падставе агульнасьці мэтаў ды ідэяў, якія падзяляліся сябрамі нефармальных суполак. Ніхто не прымушаў уваходзіць у гэтыя структуры, гэта было нават і рызыкоўна, бо дзяржава працягвала ставіцца да нефармальных суполак нэгатыўна, альбо зь вялікім падазрэньнем.

- Суполкі займаліся вырашэньнем праблемаў са сфэры культуры, адукацыі, асьветніцтва, экалёгіі, аховы помнікаў і г. д., іншымі словамі, займаліся тымі сфэрамі, якія пазьнейшае заканадаўства аднесла да сфэры дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў.

- Суполкі праводзілі свае мерапрыемствы, як правіла, без узгадненьняў. У любым выпадку, самі вызначалі, што ім рабіць — а не атрымлівалі зацьверджаны плян ад дзяржаўных ці партыйна-камсамольскіх структураў.

- Не атрымлівалі фінансаваньня ад дзяржавы, а вонкавыя спонсары проста адсутнічалі. У гэтых умовах на сваю дзейнасьць, як правіла, грошы не здабывалі, прыцягвалі пераважна рэсурсы (людзей, матэрыялы і г. д.).

- Пераважная большасьць суполак была незарэгістраваная, але некаторыя дабіліся нават прызнаньня афіцыйнага статусу. Так, гарадзенская Паходня была зарэгістраваная пры аддзеле культуры Гарадзенскага гарвыканкаму як гістарычна-культурны клюб у 1986 годзе!

У гэты пэрыяд былі зробленыя і першыя спробы стварэньня кааліцыяў суполак, ці нават першых у Беларусі «парасонавых» структураў: Першы вальны зьезд (1987 г.) і Другі вальны зьезд беларускіх моладзевых суполак (1989 г.). На зьездах, акрамя іншага, узгадняліся агульныя мэты дзейнасьці і пытаньні каардынацыі дзейнасьці беларускіх моладзевых суполак.

Дзяржава ставілася нэгатыўна да нефармальных непадкантрольных суполак. Нэгатыўнае стаўленьне выяўлялася ня толькі ў «прафіляктычных» размовах, якія камсамольскія ці партыйныя кіраўнікі праводзілі зь сябрамі гэтых суполак (іх наўпрост абвінавачвалі ў дзейнасьці на шкоду савецкай дзяржаве ды ідэалёгіі). Варожае стаўленьне выяўлялася, напрыклад, у адкрытых кампаніях у СМІ, дзе дзяржаўна-партыйны апарат БССР выкарыстоўваў сваю прапаганду, каб ачарніць дзейнасьць моладзевых суполак. Варожасьць выяўлялася нават у фізычным ціску, напрыклад, у выпадку зь менскай Талакой у 1986 годзе, калі сіламі «аўганцаў» і працоўнай моладзі разагналі студэнтаў падчас Гуканьня вясны ў Траецкім прадмесьці. Варожае стаўленьне дзяржаўна-партыйнага апарату выяўлялася і ў перашкодах дзейнасьці моладзевых суполак. Так, Другі вальны сойм давялося праводзіць па-за межамі БССР, у Вільні.

Такім чынам, грамадзкі рух зарадзіўся як напаўпадпольны ў канцы 70-х і пачаў адкрыта разьвівацца ў Беларусі разам з прыходам Перабудовы ў сярэдзіне 80-х гадоў. Аснову склалі нефармальныя моладзевыя суполкі, якія займаліся рознымі сфэрамі грамадзкага жыцьця і, як правіла, ня

мелі спэцыялізацыі ў нейкай адной сфэры дзейнасьці. Заканадаўства, згодна зь якім маглі б дзейнічаць такія грамадзкія суполкі, адсутнічала, а стаўленьне дзяржавы да іх ад пачатку было альбо прыхавана, альбо адкрыта нэгатыўным.

Акрамя пэрыяду ўласна зараджэньня грамадзкага сэктару ў Беларусі, можна вылучыць некалькі наступных:

Другі пэрыяд разьвіцьця грамадзкага сэктару пачаўся пасьля атрыманьня Беларусьсю незалежнасьці. Пачатак гэтага пэрыяду можна адлічваць ад 1994 году, з часу прыняцьця Закону «Аб грамадзкіх аб’яднаньнях», а канец зьвязаны з пачаткам ціску на грамадзкі сэктар у выглядзе заканадаўчых абмежаваньняў, адкрытага інфармацыйнага і палітычнага ціску з боку дзяржавы, які пачаўся ў 1998—1999 гадах.

Асаблівасьці другога пэрыяду: прыход замежных фондаў ды іх праца з грамадзкімі аб’яднаньнямі (найбольш вядомы — Фонд Сораса); станаўленьне, пры актыўным удзеле замежных фондаў, праграмнай дзейнасьці (тэмаў, якія на конкурснай аснове падтрымліваліся тым ці іншым замежным фондам); станаўленьне грамадзкіх аб’яднаньняў, спэцыялізаваных у нейкіх канкрэтных сфэрах дзейнасьці (напрыклад, узьнікненьне Фонду Льва Сапегі, які спэцыялізаваўся на праблемах мясцовага самакіраваньня); станаўленьне грамадзкіх аб’яднаньняў, заснаваных на касмапалітычных каштоўнасьцях і адарваных ад ранейшай традыцыі грунтавацца на беларускіх нацыянальных каштоўнасьцях (напрыклад, Next Stop — New Life, New Faces ды іншыя).

Другі пэрыяд вызначаецца адноснай свабодай грамадзкага сэктару і адсутнасьцю адкрытага супрацьстаяньня дзяржавы і грамадзкіх аб’яднаньняў. У гэты час у дзяржавы неставала рэсурсаў, а таксама не было мэты непасрэднага ціску на грамадзкія аб’яднаньні. Дзяржава не спрыяла, ставілася зь недаверам, але адкрыта ня ціснула на грамадзкія арганізацыі.

Трэці этап умоўна пачаўся ў 1998—1999 гадах, са зьменаў у заканадаўстве, якія ўскладнялі дзейнасьць арганізацыяў і гэткім чынам пачалі ціск і абмежаваньне. Можна сказаць, што гэты пэрыяд працягваецца да сёньняшняга дня.

Асаблівасьці трэцяга пэрыяду: ускладненьне дзейнасьці арганізацыяў (напрыклад, праз спэцыяльныя працэдуры перарэгістрацыі, праз ускладненьне самой працэдуры рэгістрацыі, увядзеньне спэцыяльнай працэдуры рэгістрацыі фінансавай дапамогі ад замежных донараў ды інш.); паступовае «выцісканьне» грамадзкіх аб'яднаньняў з публічнай сфэры (напрыклад, забарона ці ўскладненьне магчымасьцяў працы грамадзкіх арганізацыяў ва ўстановах сыстэмы адукацыі); увядзеньне крымінальнай адказнасьці за дзейнасьць ад імя незарэгістраванага грамадзкага аб'яднаньня; нарэшце, увядзеньне паняцьця «грамадзка-дзяржаўныя аб'яднаньні», а таксама паступовая падмена грамадзкіх аб'яднаньняў (асабліва на мясцовым узроўні) арганізацыямі, якія фармальна адпавядаюць прыкметам грамадзкага аб'яднаньня, але створаныя і ўзначальваюцца прадстаўнікамі дзяржаўнай улады ці асобамі, якім улады давяраюць.

Прапануем разгледзець сучасны стан грамадзкага сэктару больш падрабязна ў двух асноўных блёках:

- агульная характарыстыка сучаснага стану грамадзкіх аб'яднаньняў у Беларусі;
- агульная характарыстыка вонкавых умоваў, у якіх грамадзкія аб'яднаньні і грамадзкая дзейнасьць агулам знаходзяцца сёньня.

Можна шмат расказваць пра грамадзкі сэктар у Беларусі, які знаходзіцца ў надзвычай складаных умовах і пры гэтым ня толькі выжывае, але і мае патэнцыял да дзейнасьці і правядзеньня пазытыўных зьменаў

у грамадзтве. Прапануем спыніцца толькі на некалькіх наступных характарыстыках:

Па-першае, нягледзячы на ўсе складанасьці, зьвязаныя зь недаверам з боку дзяржавы і арганізаваным дзяржаваю ціскам, грамадзкі сэктар надалей разьвіваецца і прыстасоўваецца пад новыя неспрыяльныя ўмовы. Да сёньняшняга дня захаваліся і актыўна дзейнічаюць грамадзкія аб’яднаньні, якія былі зарэгістраваныя яшчэ ў 90-х гадах.

Па-другое, на сёньняшні дзень грамадзкія арганізацыі могуць з гонарам казаць пра высокі ўзровень экспэртаў у НДА, прызнаных на нацыянальным і міжнародным узроўні. Грамадзкія арганізацыі ня толькі спэцыялізаваліся, але сфармавалі за гэты час новы пласт спэцыялістаў — прафэсіяналаў у галіне грамадзкай дзейнасьці. Прычым гэтыя спэцыялісты здольныя вырашаць складаныя задачы сваімі сіламі на высокім прафэсійным узроўні. У першую чаргу ў такіх сфэрах, як: праўная, адукацыйная, абарона правоў чалавека, правы людзей з інваліднасьцю, экалягічная, арганізацыйнае разьвіцьцё, аналітычная, сацыяльнай і псыхалягічнай дапамогі розным катэгорыям людзей ды інш.

Па-трэцяе, за пэўны час існаваньня легальнага грамадзкага сэктару ў Беларусі грамадзкія арганізацыі наладзілі шырокія сувязі грамадзкіх аб’яднаньняў у Беларусі і на міжнароднай арэне. Паўсталі кааліцыі арганізацыяў, аб’яднаных дзейнасьцю ў блізкіх сфэрах (напрыклад, у сфэры дадатковай адукацыі дарослых — АДАіА, экалёгіі — «Зялёная сетка»), ці аб’яднаныя агульнымі каштоўнасьцямі (Асамблея НДА). Усе найбольш разьвітыя арганізацыі маюць добрыя працоўныя сувязі з падобнымі арганізацыямі за межамі Беларусі. Прычым гэтыя сувязі выкарыстоўваюцца для правядзеньня супольнай дзейнасьці і рэалізацыі супольных праектаў ня толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Што да вонкавых умоваў, то грамадзкі сэктар Беларусі знаходзіцца ў вельмі «зарэгуляванай» сфэры дзейнасьці, якая пільна кантралюецца дзяржавай. У гэтых умовах практычна любая арганізацыя можа пахваліцца даволі добра пастаўленай працай над фармальным апісаньнем дзейнасьці арганізацыі і справаздачнасьцю, якіх вымагае дзейнае заканадаўства (намэнклятура справаў, дакумэнтазварот, справаздачы ў падатковыя органы, архіў ды інш.), але разам з тым працягваецца палітыка «выцісканьня» грамадзкіх аб'яднаньняў з публічнай прасторы, палітыка ўскладненьня дзейнасьці і абмежаваньня ў атрыманьні рэсурсаў на дзейнасьць у грамадзкай сфэры як з-за мяжы, так і ўнутры дзяржавы.

Асаблівая ўвага дзяржавы выяўляецца ў адносінах да сфэры грамадзкай дзейнасьці і грамадзкіх арганізацыяў наступным чынам:

- 4 кастрычніка 1994 г. быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь № 3254-XII «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях» і далей зьмены ўносіліся ў гэты закон 11 разоў! Іншымі словамі, за 22 гады існаваньня закону яго «карэктавалі» ў сярэднім раз на два гады. Прычым, калі паглядзець на час увядзеньня зьменаў, то можна ўбачыць дзьве фазы: «спакойная» (з 1994 па 1999 год) і «актыўная» (з 1999 году да нашых дзён). «Актыўная» фаза зьменаў пачынаецца з 1999 году, і з таго часу зьмены ў Закон «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях» уносяцца штораз на год ці на два. Зьмяненьні і дапаўненьні: 31 студзеня 1995 г. № 3560-XII; 29 лістапада 1999 г. № 327-З; 22 чэрвеня 2001 г.; 26 чэрвеня 2003 г. № 213-З; 19 ліпеня 2005 г. № 36-З; 8 траўня 2007 г. № 221-З; 21 ліпеня 2008 г. № 416-З; 31 сьнежня 2009 г. № 114-З; 4 студзеня 2010 г. № 109-З; 8 лістапада 2011 г. № 309-З; 4 лістапада 2013 г. № 71-З.

- Увядзеньне так званых дзяржаўна-грамадзкіх аб'яднаньняў. Асноўнае адрозьненьне гэтых структураў палягае ў тым, што яны атрымліваюць фінансаваньне на сваю падтрымку і дзейнасьць зь дзяржаўнага бюджэту і рэалізуюць дзяржаўную палітыку ў

сфэрах сваёй дзейнасьці. У тым ліку дзякуючы гэтым аб’яднаньням адбываецца паступовае «выцісканьне» НДА з установаў адукацыі і публічнай прасторы, хоць ёсьць асобныя станоўчыя прыклады, калі грамадзкія аб’яднаньні без адносных праблемаў працуюць у гэтых сфэрах. Такім прыкладам можна назваць грамадзкае аб’яднаньне «Ахова птушак Бацькаўшчыны», якое вядзе актыўную дзейнасьць у школах, а на тэлебачаньні, радыё ці ў афіцыйных газэтах зьяўляецца пажаданым госьцем.

- Складаны працэс рэгістрацыі грошай ад замежных арганізацыяў, практычная адсутнасьць магчымасьці атрымліваць сродкі ад дзяржавы і адначасова негалосная забарона перадачы сродкаў на грамадзкую дзейнасьць ад мясцовага бізнэсу. Гэтыя ўмовы істотна абмяжоўваюць рэсурсы грамадзкіх арганізацыяў і тармозяць іх разьвіцьцё.

- Крымінальная адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі: Артыкул КК 193.1-1. Увядзеньне гэтага артыкула і адсутнасьць празрыстасьці ў працэсе рэгістрацыі грамадзкіх аб’яднаньняў, калі існуе рэальная магчымасьць не дапусьціць рэгістрацыі любога аб’яднаньня, стварае ўмовы для значнага абмежаваньня дзейнасьці ў грамадзкай сфэры.

Такім чынам, сфэра грамадзкай дзейнасьці ў Беларусі паступова разьвіваецца, нягледзячы на тое, што стаўленьне дзяржавы да грамадзкіх арганізацыяў з прыхавана-нэгатыўнага (на самым пачатку Перабудовы, калі гэтая сфэра толькі зараджалася) перарасло ў адкрыта нэгатыўнае ў наш час. Грамадзкім арганізацыям, акрамя вырашэньня праблемаў грамадзтва, даводзіцца шмат сілаў і часу аддаваць на прыстасаваньне да неспрыяльных вонкавых праўных і палітычных умоваў, і ў пэўнай часткі незалежных грамадзкіх арганізацыяў гэта атрымліваецца.

# 2. Арганізацыі грамадзкага сэктару Беларусі

Асновай грамадзкай сфэры зьяўляецца актыўны грамадзянін, пра што мы казалі ў папярэдняй частцы. Але для вырашэньня праблемаў грамадзтва актыўны грамадзянін стварае ці далучаецца да ўжо дзейных арганізацыяў.

«НДА» (ці «няўрадавая дэмакратычная арганізацыя») — адзін з найбольш пашыраных тэрмінаў, якія выкарыстоўваюць для абазначэньня арганізацыі. Як мы разумеем гэты тэрмін? У самім тэрміне прысутнічаюць некалькі складнікаў, на якія мы спрабуем зьвярнуць увагу:

Па-першае, «няўрадавая»: то бок, ідзецца пра аб’яднаньне асобаў, не зьвязанае наўпрост зь дзяржавай. Ня створанае зь яе ініцыятывы, ня створанае для выкананьня дзяржаўнай палітыкі, не фінансаванае непасрэдна зь дзяржаўнага бюджэту. Наадварот, ідзецца пра аб’яднаньне асобаў, незалежных ад дзяржавы.

Па-другое, «дэмакратычная»: то бок, гэта ня проста аб’яднаньне, гэта аб’яднаньне асобаў, якія падзяляюць дэмакратычныя каштоўнасьці. Гэта значыць, што ня толькі мэты дзейнасьці, але і прынцыпы кіраваньня, прыняцьця рашэньняў, культура ўзаемадачыненьняў у арганізацыі грунтуюцца на дэмакратычных каштоўнасьцях.

Па-трэцяе, «арганізацыя»: то бок, гэта не асоба, а пэўная колькасьць асобаў, аб’яднаных у структуру. Што гэта за структура — грамадзкае аб’яднаньне ці ўстанова, зарэгістраваная арганізацыя ці ініцыятыва — мы ня можам сказаць дакладна. Усе згаданыя структуры патрапляюць пад такое вызначэньне.

Такім чынам, пад няўрадавай дэмакратычнай арганізацыяй трэба разглядаць нейкую незалежную ад дзяржавы і ўлады структуру, якую стварылі асобы, аб'яднаныя дэмакратычнымі каштоўнасьцямі.

Тэрмін добры, але варта зьвярнуць увагу, што, згодна зь дзейным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, паняцьця «няўрадавая дэмакратычная арганізацыя» не існуе. Паводле Закону «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях», існуюць «грамадзкія аб'яднаньні». Згодна з Грамадзянскім кодэксам, існуюць: «установы», «простыя таварыствы». Паняцьці «НДА», «ініцыятыва» ў заканадаўстве адсутнічаюць!

Разгледзім паняцьці, вызначаныя заканадаўствам. Згодна з часткай 1 артыкула 1 Закону «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях», «грамадзкім аб'яднаньнем зьяўляецца добраахвотнае аб'яднаньне грамадзянаў, якія ў вызначаным заканадаўствам парадку аб'ядналіся на аснове агульнасьці інтарэсаў для задавальненьня нематэрыяльных патрэбаў і дасягненьня статутных мэтаў».

Некалькі вызначальных рысаў акцэнтуе гэтае азначэньне: прынцып добраахвотнасьці; агульнасьць інтарэсаў тых, хто аб'ядноўваецца; мэта аб'яднаньня — для дасягненьня статутных мэтаў і задавальненьня нематэрыяльных патрэбаў. Вельмі важным тут, з нашага пункту гледжаньня, зьяўляецца адзіна магчымы парадак аб'яднаньня — «вызначаны законам». Іншымі словамі, падкрэсьліваецца неабходнасьць рэгістрацыі грамадзкага аб'яднаньня як адзіна магчымы спосаб у яго аб'яднацца.

Згодна з часткай 2 артыкула 1 Закону «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях», «саюзам (асацыяцыяй) грамадзкіх аб'яднаньняў зьяўляецца добраахвотнае аб'яднаньне грамадзкіх аб'яднаньняў для каардынацыі іх дзейнасьці ў дасягненьні агульных статутных мэтаў, прадстаўленьня і абароны агульных законных інтарэсаў».

Акрамя мэтаў, зь якімі ствараецца саюз ці асацыяцыя грамадзкіх аб'яднаньняў, вельмі важным зьяўляецца вызначэньне Законам, што саюз ці асацыяцыя зьяўляюцца аб'яднаньнем толькі юрыдычных асобаў, альбо толькі зарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў. Прыкладам такога саюзу зьяўляецца Асацыяцыя дадатковай адукацыі і асьветы. Напрыклад, Асамблея НДА не магла б быць афіцыйна зарэгістраваная ў якасьці асацыяцыі, паколькі аб'ядноўвае ня толькі зарэгістраваныя грамадзкія аб'яднаньні, але і незарэгістраваныя ініцыятывы.

Частка 1 артыкула 120 Грамадзянскага кодэксу Рэспублікі Беларусь вызначае яшчэ адну форму арганізацыйнага аб'яднаньня актыўных грамадзянаў — установу: «арганізацыя, створаная ўласьнікам для зьдзяйсьненьня кіраўнічых, сацыяльна-культурных ці іншых функцыяў некамэрцыйнага характару і фінансаваная ім цалкам ці часткова».

Для нас істотнай характарыстыкай зьяўляецца магчымы некамэрцыйны характар установы, а таксама тое, чым установа прынцыпова адрозьніваецца ад грамадзкага аб'яднаньня — адсутнасьцю сяброўства. Установа, у адрозьненьне ад грамадзкага аб'яднаньня, знаходзіцца ва ўласнасьці заснавальніка. Але ад самога ўласьніка залежыць, на якіх прынцыпах будуць пабудаваныя ўзаемадачыненьні ўласьніка і супрацоўнікаў установы.

Яшчэ адной формай арганізацыі актыўных грамадзянаў зьяўляецца простае таварыства. Згодна з артыкулам 911 Грамадзянскага кодэксу, простым таварыствам зьяўляецца група асобаў, якія забавязаліся аб'яднаць свае ўклады і супольна дзейнічаць без утварэньня юрыдычнай асобы для атрыманьня прыбытку альбо для дасягненьня іншай мэты, якая не супярэчыць заканадаўству.

Нас цікавіць, што аб'яднацца на падставе дамовы паміж асобамі і юрыдычнымі асобамі, напрыклад, грамадзкімі аб'яднаньнямі, можна для

дасягненьня некамэрцыйных мэтаў (для дабрачыннай ці любой іншай грамадзка значнай дзейнасьці). Асаблівасьці гэтай формы арганізацыі: з аднаго боку, гэта можа быць спосабам аб'яднаньня ініцыятывы для вырашэньня грамадзка значных праблемаў, альбо стварэньня кааліцыі (напрыклад, «Зялёная сетка» створаная як простае таварыства), з другога боку — простае таварыства не зьяўляецца юрыдычнай асобай, а гэта значыць, што кожны таварыш зьяўляецца носьбітам усіх правоў і абавязкаў.

Надзвычай часта можна пачуць тэрмін «грамадзкая ініцыятыва» ці проста «ініцыятыва». Але, падобна да тэрміну «НДА», «ініцыятыва» — тэрмін, не замацаваны заканадаўствам. Зь юрыдычнага боку любая ініцыятыва — гэта незарэгістраванае грамадзкае аб'яднаньне, дзейнасьць якога заканадаўча забароненая. Разам з тым, тэрмін «ініцыятыва» шырока выкарыстоўваецца ў сфэры грамадзкай дзейнасьці.

Такім чынам, асноўныя арганізацыі, якія дзейнічаюць у грамадзкім сэктары Беларусі і якія мы будзем разглядаць у нашым дапаможніку, — гэта: грамадзкія аб'яднаньні, установы, простыя таварыствы, асацыяцыі, НДА, ініцыятывы (і некаторыя іншыя, якія засталіся па-за нашай увагай). Далей мы будзем выкарыстоўваць тэрмін «НДА», маючы на ўвазе форму аб'яднаньня актыўных грамадзянаў, у шырокім разуменьні гэтага тэрміну, з мэтаю паляпшэньня грамадзтва.

# 3. Роля НДА ў разьвіцьці мясцовай супольнасьці

Можна казаць пра розныя ролі, якія адыгрывае НДА ў разьвіцьці мясцовай супольнасьці, але мы спынімся толькі на трох зь іх:

**Найпершая роля НДА — у акрэсьленьні, абмеркаваньні і вырашэньні грамадзка значных праблемаў сіламі грамадзтва.**

Гэта значыць, НДА зьяўляюцца тымі структурамі, якія дапамагаюць простым грамадзянам самім вылучыць праблему, самастойна яе разгледзець і сваімі ж сіламі вырашыць. Роля НДА ў гэтых умовах — роля ня проста арганізатара, а пэўнай «базы», куды зьвяртаюцца грамадзяне па падтрымку. «Базы», якая здольная каардынаваць дзейнасьць грамадзянаў, якая дапамагае плянаваць і адсочваць вынікі дзейнасьці грамадзянаў у вылучэньні праблемы, дасьледаваньні, вызначэньні шляхоў і выкананьні плянавых дзеяньняў для выпраўленьня сытуацыі і вырашэньня гэтай праблемы.

З прыкладамі пасьпяховых грамадзкіх кампаніяў, у тым ліку з удзелам НДА, можна пазнаёміцца ў разьдзеле II дапаможніка «Адстойваньне і пашырэньне правоў чалавека праз грамадзкі ўдзел», які можна спампаваць тут: www.3sektar.by/wp-content/uploads/2011/02/BY-OBSE-online.pdf.

**Другая роля НДА — дапамога ў самаарганізацыі грамадзтва і наданьне мясцовай супольнасьці большай устойлівасьці.** Гэта, так бы мовіць, «прафэсійныя», пастаянна дзейныя цэнтры мясцовай супольнасьці, куды час ад часу, калі паўстае неабходнасьць, зьвяртаецца кожны прадстаўнік мясцовай супольнасьці, які хоча аб’яднанымі намаганьнямі вырашыць нейкую праблему.

**Трэцяя роля НДА — у тым, каб зьмяняць асобу з мэтаю, каб асоба зьмяняла грамадзтва** (*узята з: Лямперт А. Е., Савелова С. Б. Проведение диагностики и планирование развития организационного потенциала некоммерческих организаций. Минск: Новая Евразия, 2015.*). Дзейнасьць НДА скіраваная ня толькі на грамадзтва, але ж і на людзей, якія ня проста жывуць у мясцовай супольнасьці, але і ў нейкі момант зьмяняюцца і захапляюцца ідэяй паляпшэньня жыцьця вакол сябе. Гэта значыць, НДА існуюць для таго, каб гэтая зьмененая асоба, у сваю чаргу, зьмяняла мясцовую супольнасьць, удасканальвала яе.

Такім чынам, НДА зьяўляецца рухавіком, апорай і асноўным арганізатарам мясцовай супольнасьці. Калі сацыяльна актыўны грамадзянін — аснова грамадзкай сфэры, дык дзейнасьць актыўнага грамадзяніна праз НДА — асноўны спосаб самарэалізацыі патэнцыялу актыўнага грамадзяніна.

# 4. Віды НДА

Перад тым, як перайсьці да разгляду розных відаў НДА, зазначым, што такая клясыфікацыя ня можа быць поўнай. А таксама, што прапанаваная клясыфікацыя мае хутчэй практычны характар, паколькі мы вылучаем ня толькі арганізацыйныя формы, вызначаныя заканадаўствам, але і незарэгістраваныя ініцыятывы.

Існуе вялікая колькасьць паказчыкаў, паводле якіх можна аб'яднаць НДА ў нейкія асобныя групы. На старонцы грамадзкага аб'яднаньня «Аб'яднаны шлях» — www.ngo.by/database/ngo — прапанаваны адзін з прыкладаў падзелу на асобныя віды НДА ў залежнасьці ад сфэры дзейнасьці. Мы, у сваю чаргу, прапануем наступную клясыфікацыю НДА:

Па-першае, паводле тэрыторыі дзейнасьці і згодна зь месцам рэгістрацыі можна вылучыць:

- **Рэспубліканскія**: дзейнічаюць на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Найчасьцей гэта грамадзкія аб'яднаньні, зарэгістраваныя Міністэрствам юстыцыі з адпаведным статусам рэспубліканскіх. Разам з тым, простыя таварыствы і ўстановы, згодна з заканадаўствам, маюць права дзейнічаць на ўсёй тэрыторыі Беларусі, нават калі яны зарэгістраваныя мясцовымі выканаўчымі органамі гораду раённага падпарадкаваньня.

- **Мясцовыя**: дзейнічаюць на тэрыторыі вобласьці, раёну, гораду, вёскі ці некалькіх вобласьцяў, раёнаў ці гарадоў. Часьцей за ўсё гэта зарэгістраваныя грамадзкія аб'яднаньні, для якіх такое тэрытарыяльнае абмежаваньне зьяўляецца істотным паводле заканадаўства.

- **Міжнародныя**: як правіла, грамадзкія аб’яднаньні, зарэгістраваныя ў адпаведнасьці з заканадаўствам, якія могуць дзейнічаць на ўсёй тэрыторыі Беларусі і за яе межамі. Дадамо сюды таксама і прадстаўніцтвы міжнародных арганізацыяў, зарэгістраваныя ў Беларусі ў адпаведнасьці з заканадаўствам, якія таксама могуць дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі.

- **Замежныя арганізацыі**: НДА, зарэгістраваныя ў адной з замежных краінаў, напрыклад, у Літве, Польшчы, Расеі ці іншай. Як правіла, ня маюць зарэгістраваных прадстаўніцтваў на тэрыторыі Беларусі, але дзейнічаюць на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў адпаведнасьці з Грамадзянскім кодэксам ды іншым заканадаўствам (не зьвязаным, аднак, з Законам «Аб грамадзкіх аб’яднаньнях»).

Па-другое, НДА падзяляюцца паводле сфэраў дзейнасьці: культурныя, экалягічныя, адукацыйныя, урбаністычныя, рэгіянальныя ды інш.

Па-трэцяе, паводле формы існаваньня НДА падзяляюцца на: грамадзкія аб’яднаньні, установы, простыя таварыствы, ініцыятывы ды іншыя арганізацыі. Розьніца паміж гэтымі формамі разглядалася ў папярэдняй частцы.

З нашага пункту гледжаньня, найбольш істотнымі зьяўляюцца падзелы арганізацыяў паводле тэрыторыі дзейнасьці, паводле сфэраў дзейнасьці і паводле формаў існаваньня. Менавіта на гэтыя крытэры НДА мусяць найбольш зважаць падчас сваёй дзейнасьці, а таксама пры стварэньні кааліцыяў і пры фармаваньні партнэрскіх сувязяў. Так, мясцоваму гарадзкому грамадзкаму аб’яднаньню даводзіцца шукаць любыя магчымыя формы і спосабы для рэалізацыі дзейнасьці па-за межамі свайго гораду, інакш яно будзе прыцягнутае да адказнасьці. А наяўнасьць нават аднаго незарэгістраванага сябра робіць немагчымым аб’яднаньне ў кааліцыю ў форме саюзу ці асацыяцыі.

# 5. Прыклады пасьпяховых НДА

Якая НДА пасьпяховая, ці што робіць НДА пасьпяховай? Адна з удзельніцаў падчас разгляду гэтага пытаньня на майстар-клясе наўпрост заявіла: «Лічу, што пасьпяховай зьяўляецца тая НДА, якая мае шмат грошай». Калі адкінуць адноснасьць паказчыку «шмат грошай», можна меркаваць: як што НДА можа здабыць грошы — значыць, арганізацыя пасьпяховая, бо нешта ж яна робіць, у выніку чаго гэтыя грошы ў яе зьяўляюцца. У такім выпадку: чым НДА багацейшая — тым больш пасьпяховая. Разам з тым, НДА не зьяўляюцца камэрцыйнымі структурамі, дзе посьпех, сапраўды, можа вылічацца атрыманым прыбыткам і колькасьцю грошай.

Здавалася б, найбольш простым рашэньнем праблемы вызначэньня пасьпяховасьці НДА можна лічыць актыўную дзейнасьць НДА і дасягненьне ёю канкрэтных вынікаў (зьмены ў грамадзтве ў межах сваіх статутных мэтаў). Аднак, у пэрыяд інтэрнэту і панаваньня PR-кампаніяў можа мэтава стварацца адное толькі ўражаньне пасьпяховасьці пэўнай НДА, калі за сфармаваным пасьпяховым іміджам можа ня быць рэальных вынікаў.

У краінах, дзе існуюць даволі складаныя ўмовы для дзейнасьці НДА (да якіх можна аднесьці і Беларусь), часьцяком можна сустрэць меркаваньне, што ўмовы існаваньня НДА не дазваляюць нават спадзявацца на станоўчыя вынікі дзейнасьці НДА ў выглядзе канкрэтных зьменаў у грамадзтве з-за перашкодаў, якія чыняцца гэтым арганізацыям. Тады ці можам мы лічыць уласна існаваньне арганізаванай адзінкі НДА ў такім грамадзтве посьпехам? Калі існаваньне нельга лічыць посьпехам, а мэты і канкрэтныя зьмены недасягальныя, ці можна паставіць іншыя крытэры, зьвязаныя зь дзейнасьцю НДА, для вызначэньня яе пасьпяховасьці? Напрыклад, працэс абмеркаваньня праблемаў у вузкім коле аднадумцаў, досьвед супольнай дзейнасьці, уласна дзейнасьць — ці могуць яны стаць у гэтым выпадку паказчыкамі пасьпяховасьці?

Сярод паказчыкаў пасьпяховасьці, відаць, неабходна зьвяртаць увагу не на адзін пэўны паказчык: колькасьць фінансаў; колькасьць праектаў; якасьць прадуктаў (кніг, сэмінараў, канфэрэнцыяў, кампаніяў); ступень падрыхтаванасьці пэрсаналу ў канкрэтных палітычных, эканамічных і сацыяльных умовах дзейнасьці НДА — але на сукупнасьць паказчыкаў.

Гэта мусяць быць паказчыкі, якія б сьведчылі пра высокую ступень разьвітасьці ўнутранага патэнцыялу, устойлівасьці арганізацыі ў тых спэцыфічных умовах, у якіх ёй даводзіцца дзейнічаць. Паказчыкі, якія б сьведчылі пра эфэктыўнасьць гэтай арганізацыі, дзе посьпех арганізацыі ўвязваецца з эфэктыўнасьцю дзейнасьці іншых НДА. Іншымі словамі, пасьпяховай зьяўляецца тая НДА, якая выкарыстоўвае найменшыя рэсурсы для дасягненьня найбольш значных эфэктаў у грамадзтве. Пры гэтым, каб увесь унутраны патэнцыял арганізацыі: яе структура, сыстэма кіраваньня, тэхналёгіі стварэньня прадуктаў, рэсурсаў, пэрсаналу — былі мэтава скіраваныя. Каб праз сваю дзейнасьць НДА вырашала праблемы і патрэбы мэтавай групы, выкарыстоўваючы партнэрскія сувязі, донараў, мясцовую супольнасьць ды іншае блізкае і вонкавае атачэньне, якое непасрэдна ўплывае на дзейнасьць НДА. Каб улічвала вонкавыя ўмовы эканамічнага, сацыяльнага, палітычнага ды іншага характару і праз гэта набліжалася да сваёй місіі.

*Схема на малюнку 1 паводле: Лямперт А. Е., Савелова С. Б. Проведение диагностики и планирование развития организационного потенциала некоммерческих организаций. Минск: Новая Евразия, 2015.*




*Малюнак 1. Схема паказчыкаў пасьпяховасьці НДА*

Але нават у гэтым выпадку мы ня здолеем грунтавацца выключна на аб’ектыўных паказчыках, бо для таго, каб вызначыць пасьпяховасьць пэўнай НДА, неабходна яе параўноўваць зь нейкай іншай НДА, альбо зь яе ідэальнай мадэльлю. Таму цалкам унікнуць суб’ектыўнага погляду немагчыма.

Прапануем падрабязна разгледзець на малюнку 1 элемэнты, якія маюць, на нашую думку, істотнае значэньне для дзейнасьці і пасьпяховасьці НДА. Разгледзім іх у зьвязцы: **місія — мэта — дзейнасьць арганізацыі праз праекты і праграмы — мэтавыя групы**.

**Місія арганізацыі** — канцэптуальны намер рухацца ў кірунку, вызначаным НДА. Звычайна місія НДА зьмяшчае: вынікі, якіх тая хоча дасягнуць сваёй дзейнасьцю; мэтавую групу, зь якой працуе; каштоўнасьці. Таксама ў яе могуць уваходзіць, напрыклад, сфэра

дзейнасьці, формы ўзаемадзеяньня з мэтавай групай, тэрыторыя дзейнасьці ды іншыя, значныя з пункту гледжаньня арганізацыі, паказчыкі.

Прывядзем два прыклады місіяў.

Місія Гарадзенскага абласнога грамадзкага аб'яднаньня маладых навукоўцаў «ВІТ»:

*«Фармаваньне нацыянальна сьведамага, сацыяльна актыўнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь праз адукацыйныя і асьветныя праграмы для моладзі на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці.»*

Місія асьветнай установы «Офіс эўрапейскай экспэртызы і камунікацыі»:

*«Забясьпечваць лёгкі доступ да інфармацыі і экспэртызы людзям і арганізацыям, якія імкнуцца пазытыўна зьмяніць сваё жыцьцё, жыцьцё арганізацыяў, супольнасьцяў і Беларусі як часткі Эўропы.»*

Так, «ВІТ» асноўным вынікам сваёй дзейнасьці бачыць фармаваньне нацыянальна сьведамага і сацыяльна актыўнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. ОЭЭК — забесьпячэньне лёгкага доступу да інфармацыі і экспэртызы. Асноўныя мэтавыя групы арганізацыяў: «ВІТ» — моладзь, якая пражывае на тэрыторыі Гарадзенскай вобласьці, ОЭЭК — любая асоба ці любая арганізацыя, якія імкнуцца пазытыўна зьмяніць сваё жыцьцё, жыцьцё арганізацыяў, супольнасьцяў і Беларусі. Пры гэтым «ВІТ» вылучае нацыянальныя і дэмакратычныя каштоўнасьці, а ОЭЭК — так званыя эўрапейскія каштоўнасьці ў шырокім іх разуменьні.

Можна доўга аналізаваць і параўноўваць дзьве гэтыя місіі. Можна знаходзіць паміж імі падобнае і адрознае, але тое, што заўсёды прысутнічае ў місіі — гэта тлумачэньне сутнасьці арганізацыі. Кароткае паведамленьне, чым займаецца арганізацыя.

Місія, як мы ўжо казалі — вынік дзейнасьці не аднаго сябра НДА, а калектыўнай спэцыяльнай працы, якая называецца стратэгічным плянаваньнем. Працэс стратэгічнага плянаваньня ў НДА ўключае ў сябе шэраг узаемазьвязаных этапаў:

1) Вызначэньне місіі і мэтаў арганізацыі;

2) Аналіз блізкага і далёкага асяродзьдзя НДА (аналіз небясьпекаў, а таксама магчымасьцяў, якія НДА можа скарыстаць для ўмацаваньня сябе, пабудовы больш эфэктыўнай дзейнасьці і зьменаў грамадзтва);

3) Выбар стратэгіі;

4) Рэалізацыя стратэгіі;

5) Ацэнка выніковасьці рэалізацыі стратэгічнага пляну.

Місія НДА, такім чынам, гэта свайго роду маяк, у кірунку якога рухаецца НДА, прычым усё, што робіць арганізацыя, мусіць адпавядаць і суадносіцца зь місіяй. Ніякая дзейнасьць унутры НДА ці ў вонкавым асяродзьдзі, у грамадзтве ня можа выходзіць за межы місіі, калі НДА хоча быць пасьпяховай.

Другім істотным фактарам, зьвязаным зь місіяй і яе ўплывам на пасьпяховасьць арганізацыі, зьяўляецца абавязковае вымаганьне, каб усе сябры НДА ведалі і прымалі місію арганізацыі як сваю. У гэтым выпадку ўся арганізацыя, кожны яе сябра, пры выкананьні любой дзейнасьці будзе спрыяць зьменам у грамадзтве ў адзіным кірунку.

Місія арганізацыі ня можа быць адарваная ад **мэты НДА**, якая зьмяшчаецца ў статуце любой зарэгістраванай арганізацыі. Больш складаная сытуацыя з ініцыятывамі. Паколькі ініцыятывы незарэгістраваныя, яны, як правіла, ня маюць ні статуту, ні місіі, а сфэра і формы дзейнасьці ініцыятывы могуць адрозьнівацца ад сфэры і формаў дзейнасьці зарэгістраванай НДА няўстойлівым характарам. Ініцыятыва моцна саступае НДА, якая мае вызначаную мэту дзейнасьці і місію, няпэўнасьцю сваёй пазыцыі ў тым, чаго яна хоча дасягнуць.

Дзейнасьць НДА, як правіла, праводзіцца ў форме праектаў. **Праект** — гэта такая дзейнасьць НДА, якая абмяжоўваецца часам і рэсурсамі і мае дакладна акрэсьленыя чаканыя вынікі. Іншымі словамі, гэта дзейнасьць, у выніку якой мы дакладна ведаем, што павінна зьмяніцца ў грамадзтве ці ў нашай НДА. І мы дакладна ведаем, што мусім зрабіць для дасягненьня гэтых зьменаў, а самае галоўнае — колькі і якіх рэсурсаў нам спатрэбіцца і колькі часу мы будзем працягваць заплянаваную дзейнасьць, каб дасягнуць чаканых зьменаў. Моцныя НДА (як правіла, тыя, якія даўно і пасьпяхова дзейнічаюць) маюць шмат праектаў, дзейнасьць якіх палягае ня ў нейкай адной, а ў некалькіх сфэрах. У гэтым выпадку асобныя праекты аб'ядноўваюцца ў асобныя кірункі дзейнасьці. Напрыклад, «адукацыйны кірунак» можа аб'ядноўваць праекты навучаньня і летнікі для моладзі, «дасьледчы кірунак» — правядзеньне дасьледаваньняў у экалягічнай сфэры, «выдавецкі» — падрыхтоўку і выданьне ўлётак, мэтадычных дапаможнікаў ці навукова-папулярных выданьняў экалягічнай тэматыкі для моладзі і г. д.

І апошні элемэнт, на які мы хацелі б зьвярнуць увагу — **мэтавая група**. Кожная НДА робіць нешта для зьменаў у грамадзтве. Але кожная пасьпяховая НДА ня толькі робіць зьмены, але і ўсю сваю энэргію зьменаў скіроўвае на нейкую канкрэтную сацыяльную групу. Іншымі словамі, любая НДА ўзьдзейнічае на кагосьці. Гэта могуць быць настаў-

нікі сярэдніх школаў, студэнты, эколягі, паляўнічыя, жыхары канкрэтнага гораду ці мікрараёну ды інш. Некаторыя НДА канцэнтруюцца на нейкай адной асаблівай сацыяльнай групе. Напрыклад, НДА сацыяльнай скіраванасьці можа ў якасьці такой групы мець дзяцей-сіротаў. Іншая арганізацыя гэтай сфэры, якая займаецца пытаньнямі сіротаў, можа канцэнтраваць сваю дзейнасьць на некалькіх групах: супрацоўнікі інтэрнатаў для дзяцей-сіротаў, прадстаўнікі дзяржаўнай адміністрацыі, якія займаюцца пытаньнямі, зьвязанымі зь дзецьмі-сіротамі і г. д. У гэтай сытуацыі ня так істотна, на якую сацыяльную групу скіраваная дзейнасьць НДА. Але для таго, каб НДА была пасьпяховай, вельмі важна дакладна ведаць, на якую сацыяльную групу скіраваная дзейнасьць НДА, якія праблемы і патрэбы ёсьць менавіта ў гэтай мэтавай групы, і што нашая канкрэтная НДА можа прапанаваць гэтай мэтавай групе.

Як відаць з малюнку 1, місія, мэта арганізацыі, ае дзейнасьць і мэтавая аўдыторыя моцна зьвязаныя паміж сабой. Апісаць гэтую ўзаемасувязь можна наступным чынам: НДА ўсьведамляе праблемы і патрэбы мэтавай групы, і ўся дзейнасьць арганізацыі скіраваная на зьмены ў грамадзтве з мэтаю вырашэньня праблемаў ці задавальненьня патрэбаў мэтавай аўдыторыі. Прычым уся падобная дзейнасьць НДА павінна адпавядаць мэце НДА і быць скіраваная ў кірунку дасягненьня ае місіі.

На грунце ўласнага досьведу супрацы з шэрагам беларускіх НДА прапануем разгледзець некаторыя **прыклады пасьпяховых арганізацыяў**, якія нам падаюцца цікавымі:

- Грамадзкае аб’яднаньне «Ахова птушак Бацькаўшчыны»: www.ptushki.org. Гэта зарэгістраванае рэспубліканскае грамадзкае аб’яднаньне, якое займаецца экалягічнымі пытаньнямі і выступае ня толькі за ахову птушак, як гэта вынікае з назвы арганізацыі, але і за захаваньне біяразнастайнасьці. Ад іншых арганізацыяў адрозьніваецца вялікай колькасьцю сябраў арганізацыі, актыўнай

працай са школамі, школьнай моладзьдзю ды бацькамі — у той час, калі грамадзкія арганізацыі практычна выціснутыя з гэтай сфэры. У адрозьненьне ад іншых арганізацыяў, актыўна выкарыстоўвае афіцыйныя СМІ і робіць гэта на высокім прафэсійным узроўні. Сябры арганізацыі разглядаюцца дзяржаўнымі органамі ды іншымі зацікаўленымі бакамі ў якасьці прызнаных экспэртаў сваёй сфэры.

- Грамадзкае аб’яднаньне «Беларуская асацыяцыя журналістаў»: www.baj.by. Рэспубліканскае аб’яднаньне журналістаў, якое нават у сёньняшніх складаных умовах ціску дзяржавы на незалежныя СМІ актыўна дзейнічае ў сфэры журналісцкай этыкі і свабоды слова.

- Саюз беларускіх пісьменьнікаў: www.lit-bel.org. Гэта найстарэйшая творчая арганізацыя ў Беларусі, заснаваная яшчэ ў 1933—1934 гадах. Асноўным посьпехам можна лічыць «вяртаньне» да формы рэальнага грамадзкага аб’яднаньня пасьля праведзенага расколу ў арганізацыі і пераключэньня ўсіх дзяржаўных рэсурсаў на падтрымку новаўтворанага афіцыйнага Саюзу пісьменьнікаў Беларусі. У вельмі неспрыяльных умовах арганізацыя выстаяла і спрабуе рэалізоўваць новыя цікавыя праекты на новых для сябе прынцыпах.

- Гарадзенскае рэгіянальнае грамадзкае аб’яднаньне «Цэнтар „Трэці сэктар“»: www.3sektar.by. Яшчэ адно зарэгістраванае грамадзкае аб’яднаньне, але гэтым разам мясцовага ўзроўню. Сярод найбольш вядомых «брэндаў» гэтай НДА: адукацыйныя курсы «Школа маладога журналіста» — праз яе прайшлі сотні гарадзенцаў, якія цяпер пасьпяхова працуюць у нацыянальных і мясцовых СМІ, а таксама ў замежных кампаніях, у тым ліку на тэлебачаньні і радыё; інтэрнэт-рэсурс «Твой стыль», які на сёньня зьяўляецца вядучым інфармацыйным рэгіянальным рэсурсам на беларускай мове; Унівэрсытэт залатога веку — адукацыйная праграма паляпшэньня

якасьці жыцьця сталых людзей, праграма, якая сёньня стала візытоўкай Цэнтру «Трэці сэктар».

- Сацыяльна-культурная ўстанова разьвіцьця беларускай мовы і культуры «Мова Нанова»: www.movananova.by. У адрозьненьне ад згаданых НДА, якія зьяўляюцца грамадзкімі аб’яднаньнямі, гэтая арганізацыя зарэгістраваная ў форме ўстановы. Гэта новая НДА, заснаваная каля году таму, пачала дзейнічаць каля двух гадоў таму, у 2014 годзе. За кароткі час здолела стаць папулярнай у Беларусі і на сёньня аб’ядноўвае некалькі тысячаў слухачоў у больш чым дзясятку гарадоў ня толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Гэтая ўстанова — добры прыклад пасьпяховай НДА ў сфэры культуры, якая здолела зрабіць за кароткі час вялікі задзел, дзякуючы сваёй інавацыйнай форме працы.

- Інфармацыйна-асьветная ўстанова «Новая Эўразія» www.eurasia.by і асьветная ўстанова «Офіс Эўрапейскай экспэртызы і камунікацыі» www.oeec.by. Таксама зарэгістраваныя ўстановы, якія займаюцца ў тым ліку падтрымкай іншых НДА (як інфармацыйнай, так і праз адукацыйныя праграмы ды рэсурсавую падтрымку).

- Праваабарончы цэнтар «Вясна»: www.spring96.org. Гэтая НДА, у адрозьненьне ад ужо згаданых, ня мае статусу юрыдычнай асобы і не зьяўляецца зарэгістраванай у Беларусі. Пры гэтым яна актыўна і плённа дзейнічае ў сфэры абароны і пашырэньня правоў чалавека. Найбольш пазнавальнымі зьяўляюцца праграмы падтрымкі і кансультаваньня пацярпелых ад палітычнага ці іншых формаў ціску, а таксама Віленская летняя школа правоў чалавека.

Сярод прыведзеных прыкладаў мы паспрабавалі паказаць НДА, розныя паводле формаў і сфэраў дзейнасьці, якія, аднак, адпавядаюць,

з нашага пункту гледжаньня, прапанаваным вышэй паказчыкам і маюць рэальныя вынікі сваёй дзейнасьці. У кароткім апісаньні гэтых арганізацыяў асноўны ўхіл рабіўся толькі на дзейнасьць і яе эфэкты. Разгляд кожнага з паказчыкаў ня ставіўся за мэту, а больш поўную інфармацыю пра гісторыю гэтых НДА, іх структуру, дзейнасьць і вынікі можна знайсьці самастойна праз прапанаваныя спасылкі на інтэрнэт-рэсурсы арганізацыяў.

Такім чынам, нават у беларускіх неспрыяльных умовах НДА, розныя паводле формаў, відаў і сфэраў дзейнасьці, могуць быць пасьпяховымі. Гэтая пасьпяховасьць не залежыць толькі ад формы, віду і сфэры дзейнасьці (альбо нават ад наяўнасьці ці адсутнасьці рэгістрацыі) — яна залежыць ад іншых паказчыкаў пасьпяховасьці.

# 6. Кааліцыі і супраца НДА

НДА як арганізацыі актыўных грамадзянаў аб’яднаныя ня толькі грамадзкай сфэрай, у якой яны дзейнічаюць — іх яднаюць супольныя каштоўнасьці, супольная культура працы. У гэтых умовах было б дзіўна, каб блізкія паміж сабою структуры не імкнуліся б аб’яднацца ў шырэйшыя кааліцыі з мэтаю каардынацыі сваёй дзейнасьці і ўзаемадапамогі.

Беларускія НДА не зьяўляюцца выключэньнем. Каапэрацыя паміж беларускімі НДА знаходзіцца на даволі высокім узроўні. Гэта асабліва важна ў неспрыяльных вонкавых палітычных і юрыдычных умовах, у якіх знаходзяцца беларускія НДА.

Вось некалькі розных, паводле формы аб’яднаньня, кааліцыяў:

- Асамблея НДА — найбуйнейшае парасонавае аб’яднаньне беларускіх арганізацыяў грамадзянскай супольнасьці ды ініцыятываў, якія прасоўваюць прынцыпы дэмакратыі і прававой дзяржавы: www.belngo.info. Адна з найстарэйшых кааліцыяў грамадзкіх арганізацыяў у Беларусі. Асамблея была заснаваная ў 1997 годзе і зараз аб’ядноўвае звыш 300 арганізацыяў. Урад тройчы адмаўляў у рэгістрацыі Асамблеі, і цяпер яна зарэгістраваная ў суседняй Літве.

- «Зялёная сетка» (простае таварыства): www.greenbelarus.info. Гэтая кааліцыя, як і Асамблея НДА, аб’ядноўвае грамадзкія арганізацыі ды ініцыятывы, але існуе ў асаблівай форме простага таварыства. Асноўная сфэра дзейнасьці НДА, аб’яднаных «Зялёнай сеткай» — экалёгія. Сетка дапамагае арганізацыям-таварышам каардынаваць свае намаганьні, а таксама рэалізуе праграмы і праекты, скіраваныя на ўмацаваньне арганізацыяў-таварышаў.

- Асацыяцыя дадатковай адукацыі і асьветы: www.adukatar.net. Асаблівасьць Асацыяцыі дадатковай адукацыі і асьветы палягае ў тым, што яна аб'ядноўвае толькі юрыдычных асобаў, якія дзейнічаюць у сфэры адукацыі і асьветы. У адрозьненьне ад іншых кааліцыяў, Асацыяцыя мае афіцыйны статус юрыдычнай асобы і прадстаўляе інтарэсы сябраў асацыяцыі. Асацыяцыя аказвае інфармацыйную падтрымку, выдае часопіс «Адукатар» і рэгулярна праводзіць вялікія адукацыйныя фэстывалі.

- Беларускі нацыянальны моладзевы савет «Рада»: www.facebook.com/radabelarus. Гэта незарэгістраваная на сёньняшні дзень кааліцыя, якая аб'ядноўвае моладзевыя грамадзкія аб'яднаньні ды ініцыятывы. Дае інфармацыйную падтрымку арганізацыям-сябрам пра міжнародныя (як правіла, эўрапейскія) праекты ў сфэры моладзевай палітыкі, а таксама прадстаўляе інтарэсы арганізацыяў-сябраў у эўрапейскіх моладзевых структурах.

Такім чынам, НДА ў Беларусі спрабуюць каардынаваць сваю дзейнасьць, абараняць і прасоўваць інтарэсы сваіх арганізацыяў праз кааліцыі ці «парасонавыя» структуры. У Беларусі толькі некаторыя з такіх кааліцыяў маюць статус юрыдычнай асобы, але гэта не зьяўляецца для іх вызначальнай праблемай пры ажыцьцяўленьні працы.

# 7. Рэгістрацыя НДА і крымінальная адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі

У Беларусі існуюць усе фармальныя працэдуры і заканадаўства для таго, каб мець магчымасьць зарэгістраваць грамадзкае аб’яднаньне. Але, па-першае, дзяржава ня толькі не спрабуе зрабіць саму працэдуру прасьцейшай, але, наадварот, ускладняе яе рознымі фармальнымі патрабаваньнямі: да колькасьці сябраў, тэрыторыі дзейнасьці ды інш. Па-другое, прычыны, празь якія могуць адмовіць у рэгістрацыі, сфармуляваныя надзвычай агульна, а тлумачэньні гэтых фармулёвак і выкарыстоўваюцца пры адмове ў рэгістрацыі. Па-трэцяе, сама працэдура прыняцьця рашэньня наконт рэгістрацыі зьяўляецца непразрыстай, таму немагчыма дакладна зразумець, што рэальна ўплывае на прыняцьце рашэньня пра рэгістрацыю ці нерэгістрацыю НДА.

У Беларусі стае прыкладаў адмоваў у рэгістрацыі і немагчымасьці зарэгістраваць аб’яднаньне (адмовы ў рэгістрацыі: праваабарончы цэнтар «Вясна», рэспубліканскае праваабарончае грамадзкае аб’яднаньне «Рух за рэалізацыю Міжнароднага пакту па грамадзянскіх і палітычных правах» і шмат іншых), ёсьць прыклады і нааднаразовых спробаў. Зь некаторымі прыкладамі адмоваў у рэгістрацыі, аналізам спосабаў змаганьня супраць надуманых прычынаў адмовы і высновамі наконт адмоваў у рэгістрацыі можна пазнаёміцца тут: www.lawtrend.org/wp-content/uploads/2016/02/AllBXD_2007-2008.pdf, ці тут: www.novychas.by/hramadstva/viarchouny_sud_nierehistracyja.

Зь іншага боку, дзяржава ўвяла крымінальную адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі (Артыкул КК 193.1-1). Падрабязны аналіз гэтага артыкула на адпаведнасьць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным забавязаньням Рэспублікі Беларусь зьмешчаны тут: www.belhelcom.org/node/13066.

Такім чынам, у некаторых выпадках атрымліваецца патавая сытуацыя: з аднаго боку — немагчыма зарэгістраваць арганізацыю, з другога — вызначаная крымінальная адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Ці значыць гэта, што ёсьць толькі адзінае выйсьце — адмовіцца ад грамадзкай дзейнасьці? Мы адназначна адказваем на гэтае пытаньне: НЕ!

Якія існуюць выйсьці з падобнай сытуацыі:

- **Далучэньне да зарэгістраваных грамадзкіх аб'яднаньняў.** Іншымі словамі, калі нам адмаўляюць у стварэньні сваёй арганізацыі — мы можам стаць сябрам ці валянтэрам ужо дзейнай, якая займаецца тымі самымі ці блізкімі кірункамі, што дазволіць нам зрэалізаваць свой патэнцыял.

- **Дзейнасьць ініцыятывы ад імя зарэгістраванай арганізацыі** (кампанія «Будзьма» і Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына»). Другі спосаб — мы ня проста робімся сябрам нейкай арганізацыі, але прапануем гэтай арганізацыі пэўную дзейнасьць у форме праекту ці кампаніі, якая можа нават адбывацца пад нашай уласнай назвай.

- **Рэгістрацыя ўстановы згодна з ГК.** Трэцім спосабам выйсьця з сытуацыі зьяўляецца рэгістрацыя некамэрцыйнай установы. Рэч у тым, што ўстанова адрозьніваецца ад грамадзкага аб'яднаньня, пра што мы казалі ў папярэдніх разьдзелах. Але ў выпадку з рэгістрацыяй нас цікавіць наступнае: і працэдура рэгістрацыі ўстановы, і мес-

ца рэгістрацыі (выканкам) прынцыпова адрозьніваюцца пры рэгістрацыя грамадзкага аб’яднаньня (структуры Міністэрства юстыцыі і Закон «Аб грамадзкіх аб’яднаньнях») — і ўстановы (органы мясцовай улады і Грамадзянскі кодэкс). Па вялікім рахунку, найбольш складанай часткай падчас рэгістрацыі ўстановы зьяўляецца фармулёўка і ўзгадненьне ўнікальнай назвы ўстановы. Менавіта праз гэтую прычыну — адносная простасьць рэгістрацыі ўстановы — у наш час зьявілася так шмат установаў у грамадзкай сфэры.

- **Простае таварыства** (арт. 911 ГК). Простае таварыства можа ствარацца фізычнымі ці юрыдычнымі асобамі, а рэгістраваць дамову, на падставе якой ствараецца простае таварыства, увогуле ня трэба. Неабходна толькі стаць на ўлік у кантралюючыя органы, але паводле паведамляльнага прынцыпу. Таму дазвол ніхто і ня мусіць даваць увогуле. Праблемай можа стаць толькі адсутнасьць статусу юрыдычнай асобы, таму варта ўзяць у якасьці галоўнага таварыша зарэгістраваную арганізацыю, якая на падставе дамовы здолее даваць для дзейнасьці простага таварыства свой рахунак, офіс ды інш. Такая форма таксама прымальная, яе мы бачым на прыкладзе «Зялёнай сеткі», галоўным таварышам у якой зьяўляецца грамадзкае аб’яднаньне «Экадом».

- **Камітэт для стварэньня грамадзкага аб’яднаньня.** Пасьля правядзеньня ўстаноўчых мерапрыемстваў вылучаецца камітэт ці прадстаўнікі, якія, паводле заканадаўства, могуць прадстаўляць інтарэсы людзей, што вырашылі стварыць новую арганізацыю. Сярод іншага, гэтыя ўпаўнаважаныя могуць выступаць ад імя ствaранай арганізацыі. Прыкладам зьяўляецца Беларуская хрысьціянская дэмакратыя (БХД), якая шматкроць падавала на рэгістрацыю, а ў працэсе абскарджаньня адмовы працягвае выступаць ад імя гэтай ствaранай арганізацыі. Ясна, што БХД — гэта палітычная партыя, а не НДА, але прынцып прадстаўленьня інтарэсаў ёсьць і там, і там.

- **Рэгістрацыя арганізацыі за мяжой.** Згодна з заканадаўствам, замежныя рэзыдэнты, у тым ліку НДА, могуць выступаць ад свайго імя ў правадачыненьнях у Беларусі. Прыкладам арганізацыі, якая зарэгістраваная за мяжой, а дзейнічае як замежная арганізацыя ў Беларусі без афіцыйнага прадстаўніцтва, зьяўляюцца Асамблея НДА (Літва) і «Грамадзянская Беларусь» (Чэхія). Падрабязьней пра тое, што дае статус зарэгістраванай за мяжой арганізацыі, якія ёсьць перавагі і недахопы, а таксама пра тое, як зарэгістраваць НДА за межамі Беларусі, глядзіце на сайце Асамблеі НДА: www.belngo.info/law5.

Нягледзячы на тое, што стаўленьне дзяржавы да НДА працягвае быць нэгатыўным, што, у прыватнасьці, выяўляецца ў перашкодах падчас рэгістрацыі НДА і ва ўвядзеньні крымінальнай адказнасьці за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай НДА ў Беларусі, сёньня існуюць некалькі легальных шляхоў, як пасьля адмовы ў рэгістрацыі займацца грамадзкай дзейнасьцю і ня быць прыцягнутым да адказнасьці.

# 8. Фінансаваньне НДА

Адным з надзённых пытаньняў для новых грамадзкіх аб’яднаньняў ды ініцыятываў зьяўляецца пытаньне, адкуль браць грошы. Дзе знайсьці фінансаваньне на сваю дзейнасьць?

Па-першае, трэба дакладна разводзіць паняцьце фінансаў і рэсурсаў, неабходных для рэалізацыі дзейнасьці. Для выкананьня некаторых праектаў грошы не зьяўляюцца абавязковымі. Мы можам выкарыстаць уласныя рэсурсы: свой час, здольнасьці і навыкі сяброў арганізацыі ці нашых знаёмых, паперу зь мінулага трэнінгу, уласны кампутар і праектар ды інш. Часта рэсурсы знайсьці значна прасьцей, чым грошы.

Але і грошы для дзейнасьці НДА знайсьці можна. Варта разьвесьці донараў (тых, хто здольны дапамагчы нам рэсурсамі, у тым ліку грашыма) на дзьве вялікія групы: замежныя донары і мясцовыя.

Як можна здабываць фінансы ад замежных донараў? Для гэтага, як мінімум, трэба:

- **Падрыхтаваныя спэцыялісты ў галіне фандрэйзінгу** (пошуку і прыцягненьні фінансавых рэсурсаў), плян прыцягненьня рэсурсаў, бюджэт і г. д. Звычайна ў НДА адзін ці некалькі чалавек спэцыялізуюцца ў напісаньні заявак на атрыманьне фінансаваньня. Як правіла, гэта тыя, хто прайшоў папярэдняе навучаньне па напісаньні заявак на фінансаваньне, альбо тыя, хто бачыў, як нехта іншы падаваў заяўку. У Беларусі заяўкі падаюць практыкі. Кожная новая заяўка робіцца ўсё лепшай, бо чалавек, што яе рыхтуе, атрымлівае новы досьвед, які ўлічвае ў будучыні. Разам з тым, НДА павінна імкнуцца, каб паступова выпрацаваць фандрэйзінгавую палітыку (да каго і як

мы зьвяртаемся з заяўкамі — а да каго ніколі ня зьвернемся, і чаму), павінны мець плян фандрэйзінгу (не падаваць заяўку, калі выпадкова атрымалі інфармацыю, а плянава шукаць, куды і для чаго падаваць), плянавае напісаньне праектаў заявак, атрыманьне і рэгістрацыя фінансаў згодна зь беларускім заканадаўствам.

- **Атрыманьне фінансаў ад замежнага донара ў супольных праектах з партнэрскімі арганізацыямі зь Беларусі.** Гэты спосаб можа быць асабліва карысным для тых арганізацыяў, якія ня могуць, зь нейкіх прычынаў, атрымаць дазвол на рэгістрацыю фінансавых сродкаў на праектную дзейнасьць. Трэба памятаць, што ёсьць такія арганізацыі, якім дзяржаўныя органы, як правіла, дазваляюць рэгістраваць праекты і сродкі для іх рэалізацыі. Прыкладам можа быць супраца грамадзкага аб'яднаньня «ВІТ» і РГА «Беларуская Асацыяцыя клюбаў ЮНЭСКО», якая зарэгістравала праект на сваю арганізацыю, а «ВІТ» выступаў як партнэр у рэалізацыі праекту.

- **Атрыманьне фінансаў партнэрскай арганізацыяй за мяжой і выкананьне асобнай дзейнасьці паводле дамовы.** Такі падыход блізкі да папярэдняга выпадку, з той толькі розьніцай, што асноўным атрымальнікам грошай будзе ваш замежны партнэр. Як правіла, такому партнэру, як замежнаму рэзыдэнту, няма неабходнасьці рэгістраваць грошы ў Беларусі. Ён можа са свайго рахунку сплачваць вялікую колькасьць дзейнасьці ў межах праекту.

Што да мясцовых донараў, важна ведаць, што такія донары ёсьць!

- **Дзяржава.** Мясцовыя дзяржаўныя органы зьяўляюцца ці не найбольш буйным зь мясцовых донараў у Беларусі. Атрымаць фінансаваньне на дзейнасьць могуць толькі зарэгістраваныя грамадзкія аб'яднаньні ці асацыяцыі грамадзкіх аб'яднаньняў. Для гэтага, у ідэале, трэба, каб вашую дзейнасьць уключылі ў дзяржаўную

праграму. У выпадку, калі гэта адбудзецца (а гэта магчыма, асабліва калі вашая дзейнасьць будзе карысная для праграмы), на працягу ўсяго пэрыяду існаваньня праграмы вы можаце разьлічваць на тыя сродкі, якія вам належаць на дзейнасьць, зацьверджаную праграмай. Па дадатковыя грошы трэба зьвяртацца, калі будуць ствараць новую праграму. Асноўнай небясьпекай зьяўляецца тое, што дзяржава можа пазьней, калі вы ўжо выканаеце сваю абавязковую частку, грошы вашай арганізацыі не пералічыць. Так здарылася, напрыклад, з грамадзкім аб’яднаньнем «ВІТ», некалькі мерапрыемстваў якога былі ўключаныя ў абласную моладзевую праграму, а калі дзейнасьць была выканана — грошы не былі пералічаныя.

- **Мясцовы бізнэс.** Характэрнай рысаю мясцовых донараў са сфэры бізнэсу зьяўляецца тое, што яны з большай ахвотаю даюць нейкую прадукцыю, чым фінансы. Гэта, у першую чаргу, зьвязана з заканадаўствам, якое не дае магчымасьці і не стварае ўмоваў для вылучэньня грошай на дабрачынную дзейнасьць і, акрамя праблемаў, нічога не дае мясцоваму бізнэсу. Пры звароце ў ліманадную кампанію варта разьлічваць на пэўную колькасьць напояў, пры звароце ў мясакамбінат — на пэўную частку іх вырабаў, пры звароце ў спартовую краму — на мячы ці іншы рыштунак, які яны прадаюць.

- **Краўдфандынг.** Новай, сучаснай формай збору фінансаў зьяўляецца краўдфандынг, альбо збор грошай пад анансаваны праект ці прадукт на спэцыяльнай інтэрнэт-пляцоўцы. Прыкладамі такіх краўдфандынгавых пляцовак у Беларусі зьяўляюцца www.talaka.by і www.ulej.by. Існуе даволі шмат прыкладаў пасьпяховага збору сродкаў грамадзкімі аб’яднаньнямі на падобных рэсурсах. Сярод апошніх можна назваць збор сродкаў (некалькіх дзясяткаў мільёнаў) на праект «Цытуй сваё», вынікам якога стала выданьне зборніка цытатаў грамадзкіх і культурных дзеячоў Беларусі. Асаблівасьцю гэтага спосабу збору сродкаў зьяўляецца тое, што ў кожнага рэсурсу

ёсьць свае ўнутраныя правілы збору і выдачы сродкаў, зь якімі трэба загадзя ўважліва пазнаёміцца. Так, на некаторых плятформах існуе правіла, што сродкі выдаюцца, толькі калі набралі заяўленую суму. Гэта значыць, калі заявілі, што на праект трэба сабраць 60 мільёнаў, а сабралі толькі 59 мільёнаў — гэтыя грошы не выдаюцца заяўнікам, а адсылаюцца назад тым, хто іх ахвяраваў. На некаторых плятформах зьбіраюцца ня сродкі, а папярэднія пажаданьні людзей даць нейкую канкрэтную суму. Калі ў выніку неабходная колькасьць такіх заяваў будзе сабраная — пачынаюць дасылаць паведамленьні тым, хто заявіўся, з просьбай перадаць заяўленую суму. Заяўнік у любы момант можа адмовіцца, і ніхто яго ня можа прымусіць, таму неабходная заяўленая сума можа быць не сабраная.

У Беларусі на сёньняшні дзень існуе складаная сыстэма рэгістрацыі замежнай донарскай дапамогі. Сама працэдура пошуку донара, падачы заяўкі можа быць даволі складанай. Але і ў гэтых умовах многія грамадзкія арганізацыі знаходзяць магчымасьць атрымаць фінансаваньне для сваёй дзейнасьці як ад мясцовага бізнэсу, так і ад замежнага. Некаторыя са спосабаў атрыманьня фінансаў мы паказалі ў гэтым разьдзеле.

# 9. Як далучыцца да дзейнасьці НДА

Грамадзкія арганізацыі варта разглядаць як апорную базу актыўных грамадзянаў у грамадзкай сфэры. Ня ўсе грамадзяне гатовыя добраахвотна, на ўласнае жаданьне прыйсьці і нешта рабіць для грамадзтва, каб яго палепшыць. Такая праца патрабуе ня толькі ахвярнасьці, але і вялікіх высілкаў. НДА патрэбныя для таго, каб у грамадзянаў, якія ўжо вызначыліся з тым, што яны хочуць рабіць у грамадзкай сфэры, была магчымасьць прыйсьці ня ў чыстае поле, а зьвярнуцца ва ўжо дзейныя структуры, якія могуць даць арганізацыйную, інфармацыйную ды іншую падтрымку такому грамадзяніну.

Для таго, каб далучыцца да арганізацыі, трэба яе знайсьці. Як і дзе можна шукаць НДА?

- Самы просты спосаб — пошук праз ключавыя словы сайтаў, старонак у сацыяльных сетках з кантактамі арганізацыі. Альбо проста зьвярнуцца на сайт «Аб’яднанага шляху», дзе захоўваецца ці ня самая вялікая база грамадзкіх аб’яднаньняў Беларусі: www.ngo.by/database/ngo.

- Можна зьвярнуцца асабіста ці пісьмова ў абласное ўпраўленьне юстыцыі з просьбай даць кантакты грамадзкіх аб’яднаньняў, якія дзейнічаюць у вашым населеным пункце.

- Можна «маніторыць» ці проста зьвяртаць увагу на інфармацыю пра розныя акцыі ці мерапрыемствы, якія праводзяць НДА ў вашым населеным пункце.

- Можна даведацца з СМІ пра дзейнасьць нейкай НДА.
- Можна паўдзельнічаць у акцыі, арганізаванай сябрамі ці валянтэрамі НДА, напрыклад, у гарадзкім сьвяце, у прыборцы ляснога масіву, у зборы сродкаў для дзяцей-сіротаў і г. д.
- Можна запытацца ў сяброў.

Калі патрэбная арганізацыя знайшлася, трэба прадэманстраваць свае здольнасьці для таго, каб цябе туды ўзялі. Калі да ініцыятывы далучыцца даволі проста (прыйшоў на паседжаньне і пачаў працаваць зь імі, бо гэта структура нефармалізаваная), то для таго, каб стаць сябрам грамадзкага аб’яднаньня, як правіла, трэба прайсьці спэцыяльную працэдуру з напісаньнем заявы, разглядам гэтай заявы кіруючымі органамі НДА і г. д.

Унівэрсальнага рэцэпту, як выбраць арганізацыю і з чаго пачаць у ёй працаваць, няма. Кожны выбірае тое, што яму даспадобы, і ў тых межах, якіх дазваляе НДА. Але ў кожнага ёсьць магчымасьць даведацца пра дзейнасьць прынамсі зарэгістраваных грамадзкіх аб’яднаньняў. Памятайце, што стаць валянтэрам, сябрам арганізацыі, ці заснаваць новую ініцыятыву ці НДА можа кожны.

# 10. Куды зьвярнуцца па кансультацыю адносна НДА

З усяго прапанаванага вышэй матэрыялу відаць, што, нягледзячы на няпростую сытуацыю ў сфэры грамадзкай дзейнасьці, існуюць станоўчыя, пасьпяховыя прыклады, як можна даваць рады такім цяжкасьцям.

Для тых, хто хоча стварыць і зарэгістраваць грамадзкае аб’яднаньне, ёсьць вельмі добры рэсурс, падрыхтаваны адной з найлепшых юрыстак у сфэры грамадзкіх аб’яднаньняў — Вольгай Смалянкай. Дапаможнік можна знайсьці тут: www.lawtrend.org/freedom-of-association/3-e-izdanie-knigi-olgi-smolyanko-sozdanie-nekommercheskih-organizatsij-v-belarusi-pravovye-aspekty.

Сёньня існуе шэраг НДА, якія спэцыялізуюцца на забесьпячэньні розных формаў падтрымкі для НДА, а таксама для тых людзей, якія хочуць займацца грамадзкай дзейнасьцю.

- **Асамблея НДА**: www.belngo.info. Інфармацыйная падтрымка, кантакты беларускіх і замежных НДА, навучальныя праграмы, праграмы ўмацаваньня рэгіянальных НДА.

- **Цэнтар прававой трансфармацыі «Lawtrend»**: www.lawtrend.org. Інфармацыйная і праўная падтрымка дзейнасьці НДА, кансультаваньне ў пытаньнях рэгістрацыі грамадзкіх аб’яднаньняў і ўстановаў, дасьледаваньні, датычныя разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці.

- **Беларускае рэспубліканскае грамадзкае аб’яднаньне «Аб’яднаны шлях»**: www.ngo.by/about. Інфармацыйная падтрымка, матэрыялы

для НДА, даведнікі, анлайн-кансультацыі (адказы на юрыдычныя пытаньні).

- **Беларускі Хэльсынскі камітэт**: www.belhelcom.org. У першую чаргу гэта праўная дапамога, а таксама адукацыя ў галіне правоў чалавека.

- **Камітэт «Салідарнасьць»**: www.salidarnasc.org/contact. Праўная дапамога, а таксама матэрыяльная дапамога ў выпадку страты працы.

- **Праваабарончы цэнтар «Вясна»**: www.spring96.org. Праўная дапамога, а таксама адукацыя ў галіне правоў чалавека.

На сёньняшні дзень грамадзкі сэктар Беларусі разьвіты да такой ступені, што мае ўласныя спэцыялізаваныя арганізацыі, спэцыялістаў і экспэртаў, здольных дапамагчы кансультацыямі ў пытаньнях як стварэньня, так і ўсіх этапаў жыцьцядзейнасьці НДА: пры афармленьні намэнклятуры справаў, звароце ў судовыя органы, рэгістрацыі замежнай донарскай дапамогі і г. д.